**Увага! Працягваецца падпіска на «Газету Слонімскую» на 1999 год**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 2 (83). 7 — 13 студзеня 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт свабодны


## РОЖДЕСТВЕНСКОЕ ПОСЛАНИЕ

Божественным установлением, время неумолимо движется вперед, зажигая на своем пути неугасимые лампады Господних праздников. И вот сегодня возжена лампада Рождества Христова – "Матери всех праздников, начала и основания их".

В сей день мы преклоняем колена своего сердца пред убогими яслями Богомладенца Христа и возносим ум свой к тем отдаленным временам, когда пришла полнота Божественного милосердия и по-новому зазвучала ветхозаветная песнь: "С нами Бог, разумейте языцы и покоряйтесь, яко с нами Бог!".



Отдаленные от этого события почти двумя тысячами лет, православные люди нашего времени остаются, как и прежде, истинными свидетелями Боговоплощения. Соединяясь с Богом, и друг с другом причастием Тела и Крови Господа нашего Иисуса Христа. Полнота Православия выходит за временные рамки и входит в Вечность, открытую с пришествием в мир Спасителя. Это чудесное свойство Божией Церкви, когда мы становимся реальными участниками давно прошедших (в человеческом понимании) событий: Рождества Христова, Тайной Вечерни, Крестных Страданий, Пятидесятницы.

Участвуя и сопереживая, неотделимая от Христа Церковь ныне припадает к Его яслям и изливает свои смиренные молитвы о властях, воинстве, народе и обо всем мире, доныне пребывающем во мраке неведения и богоотступничестве.

Возлюбленные о Господе клир и паства Новогрудско – Лидской Епархии! От всего сердца поздравляю всех вас с праздником рождества господа Бога и Спаса нашего Иисуса Христа и с грядущим Новым Летом благости Господней!

ГУРИЙ, ЕПИСКОП НОВОГРУДСКИЙ И ЛИДСКИЙ, НАМЕСТНИК СВ. УСПЕНСКОГО ЖИРОВИЦКОГО МОНАСТЫРЯ.

**ЗДАРЭННІ**

## Зэльвенскія разборкі

**Трэцяга студзеня каля 20 гадзін вечара, пры выхадзе з рэстарана "Зэльвянка", стрэлам з пісталета быў смяротна паранены ў жывот жыхар Зэльвы 40-гадовы К., а яго сябар з Мінска атрымаў раненне ў руку.**

Праз чатыры гадзіны зэльвянін К. памёр. Па неафіцыйнай інфармацыі істралок, і забіты займаліся незаконным валютным бізнесам. Устанавіць месца знаходжання забойцы пакуль не ўдалося.

Лявон ЯСЕНЬ

## Смерць у агні

**Раніцай 4 студзеня ў вёсцы Вялікія Шылавічы загарэўся дом.**

Падчас пажару ў агні загінуў 32-гадовы гаспадар, рабочы саўгаса "Маладая гвардыя", Вячаслаў Мацяска.

## Ракета ў хату прыляцела...

**Падчас навагодняга феерверка ў адну з кватэр дома, што на вуліцы Даватара, праз акно ўлятела ракета.**

Яна разбіла шкло ў дзвярах пакоя і ўпала на дыван. На шчасце, гаспадары кватэры былі на месцы і патушылі агонь. Міліцыя ўстанавіла, што гэта была вайсковая сігнальная ракета.

## Навагодні ваяж

**На адным з дачных участкаў паблізу вёскі Чамяры згарэў двухпавярховы дом сланімчанкі Л.**

Міліцыя ўстанавіла, што падпал учынілі вучні СШ №10, трынаццацігадовы Уладзімір Л. і васьмігадовы Дзіма Я., якія правялі навагодні ваяж па чамяроўскіх і вераб'еўскіх дачах. Такім чынам хлопцы абчысцілі 12 дач.

## Гарэлі хлеў і "Масквіч"

**Усяго на некалькі хвілін пакінула без нагляду кормазапарнік жыхарка вёскі Паўлава Антаніна Белуш.**

Але гэтага хапіла, каб у хляве ўзнік пажар. Страты аказаліся невялікімі, дзякуючы своечасовай дапамозе пажарных.

А вось у слонімца Міхася Богдана з вуліцы Астроўскага ў выніку пажару ў гаражы абгарэў "Масквіч-412". Прычына загарання – замыканне акумулятара, які гаспадар паставіў на падзарадку.

Валянцін ЧУРЫЛА

**НОВОСТИ**

## Новый год — с новыми заработками

**С 1 января 1999 года минимальная заработная плата установлена в размере 500 тысяч рублей.**

В связи с этим тарифная ставка первого разряда будет равняться 1 миллиону 200 тысяч рублей (ранее она была 700 тысяч). Кроме того, увеличатся фиксированные доплаты работникам 1-13-го разрядов. Соответственно повысятся стипендии и пенсии, пособия по безработице увеличатся почти в полтора раза.

Заработная плата бюджетников возрастет на 26,4 процента. Значит, учителя и врачи станут получать на 20 процентов больше.

Наталья ФУРСОВА

## Поездка подорожает

**С 11 января 1999 года ожидается увеличение стоимости проезда в городском общественном транспорте с 3.000 до 4.000 рублей за одну поездку.**

Соответственно, с февраля на треть подорожают и месячные проездные билеты.

БелаПАН

**ПРОШУ СЛОВА**

# ДВОЕВЛАСТИЕ, ИЛИ О ТОМ, ЗАЧЕМ НАМ СТОЛЬКО НАЧАЛЬНИКОВ?

Президент то и дело лично приезжает в тот или иной район и наводит там порядок. Желает он того или нет, но этим фактически подменяет местную власть. Неудивительно, что все больше жалоб, в том числе и сугубо лично-бытовых, направляется в администрацию президента. Напрашивается вопрос: для чего существует многотысячная армия чиновников на местах? Не раз приходилось слышать примерно следующее:

– Вот бы приехал Лукашенко да посмотрел, что у нас делается. Как так может быть: мыла, сахара в магазинах нет, а на рынке – пожалуйста!

В самом деле, почему? Может быть, в нашем городе некому контролировать потребительский рынок? Да нет же! Сотни и сотни чиновников разных рангов разместились в теплых, уютных кабинетах 6-этажного здания исполкома. Сам не считал, но от сведущего человека слышал, что в здании "белого дома" более четырехсот кабинетов! А в каждом кабинете сидят по 2-3 человека.

Управленческий аппарат на свое содержание требует большие деньги из государственной казны. А деньги эти, как известно, из кармана налогоплательщиков.

Взять, скажем, наш город и район. На семьдесят с небольшим тысяч населения – две власти: городская и районная. Два исполкома, два совета. В их составе – многочисленные отделы и управления. Разумеется, во главе с начальниками. А у начальника – секретарь, служебная машина и штатный водитель.

Не так давно при горисполкомах начали действовать информационные отделы. В штате горисполкомовского отдела три человека, в райисполкоме – два. Подумалось, а нужны ли чиновники-информаторы в нынешней ситуации. В одном из этих отделов я поинтересовался:

– Чем вы занимаетесь?

– Собираем и обобщаем информацию по всем вопросам социально-экономической жизни, организуем выезд на места информационных групп, составляем для начальства доклады...

Во втором отделе пояснили:

– Следим за прессой, контролируем деятельность штатных и внештатных работников по воспитательной работе на предприятиях, учреждениях и организациях.

Но ведь подобное у нас уже было. Здравомыслящие люди говорят: "Зачем нам воспитатель и организатор? Обеспечьте нас работой и дайте возможность каждому зарабатывать столько, сколько необходимо для нормальной жизни". Хорошо оплачиваемый труд был и остается лучшей нормой агитации.

На самом же деле и жизнь большинства наших сограждан не улучшается, а становится все дороже и труднее. И вот в то же время появляются агитаторы, которые пытаются нас убедить, что жизнь хороша.

Из всего выше сказанного получается: чем больше начальников, тем хуже живет большинство людей. Двоевластие на Слонимщине – дорогостоящая и малоэффективная форма местного самоуправления.

Иван ЧУГУЕВ

**ТРЫБУНА**

# "ТРЭБА СПАДЗЯВАЦЦА НА СВОЙ РОЗУМ..."

**Як вядома, у гэтым годзе плануецца аб'яднанне Беларусі і Расіі. Днямі карэспандэнты "ГС" звярнуліся да слонімцаў з пытаннем: як яны ставяцца да саюза Беларусі з Расіяй? Вось якія меркаванні яны пачулі.**



**Саша і Таццяна**, *муж і жонка:*

– Пры аб'яднанні Беларусі з Расіяй знікнуць межавыя бар'еры і можна будзе часцей ездзіць да сваіх родных у Расію. Але з другога боку – можа здарыцца так, што ў нас, як цяпер у Расіі, людзі па некалькі месяцаў не будуць атрымліваць заработную плату.

**Анатоль Паўлавіч Снітко**, *карэнны слонімец:*

– Я за раўнапраўны і незалежны саюз з Расіяй. Мы з рускімі брацкія народы. Расія – наш асноўны рынак збыту. Але я супраць таго, каб Беларусь трапіла ў поўнае падпарадкаванне Расіі. Адносіны паміж нашымі рэспублікамі павінны быць прыкладна такімі ж, якія існуюць паміж краінамі еўрапейскай супольнасці.

**Леакадзія Ягорава**, *ветэран працы:*

– Калі наш прэзідэнт скажа прама: Беларусь стане поўнасцю падпарадкоўвацца Расіі, то не можа ісці ніякай размовы пра нейкі саюз. Я толькі за эканамічныя адносіны паміж Беларуссю і Расіяй, але ні ў якім разе не за палітычны і ваенны саюз.



**Алег Вадзвіжанскі**, *вадзіцель:*

– Я супраць саюза Беларусі і Расіі, бо нічога добрага ў гэтым не бачу. Калі адзін бедны чалавек аб'ядноўваецца з яшчэ бяднейшым – карысці ад гэтага будзе мала. У Расіі сваіх праблем хапае: там і галеча, і забастоўкі. Нічога дарма нам Расія не дасць.



**Марыя Паўлаўна Машко:**

– Я толькі за саюз з Расіяй. Столькі гадоў мы жылі разам, а сёння нібы чужыя. Лічу, што наш прэзідэнт правільна робіць, што збліжае беларускі і рускі народы. Горш ад гэтага не будзе.



**Ала Вацлаваўна Кавалеўская**, *ветэран працы:*

– Толькі ў саюзе з Расіяй мы знойдзем сваё шчасце і дабрабыт. Вось толькі ў Расіі трэба парадак навесці. Там патрэбен больш строгі і патрабавальны кіраўнік, такі, як наш прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. У нас жа і зарплату, і пенсію выплочваць своечасова, а там не.

(Працяг на стр.2)

ТРЫБУНА

# "ТРЭБА СПАДЗЯВАЦЦА НА СВОЙ РОЗУМ..."

**Уладзімір Фаміч,** *ветэран працы:*

— Я толькі за саюз Беларусі з Расіяй, бо адным нам жыць далей будзе вельмі цяжка. І ў першую чаргу ў эканамічным плане. Бо вытворчасць і збыт прадукцыі нашых заводаў і фабрык цалкам залежаць ад расійскага рынку. На захадзе нас ніхто не чакае і нічым не дапаможа.

**Рыгор Абрамавіч,** *ветэран працы:*

— Я не палітык, і мне цяжка даваць ацэнку тым падзеям, якія цяпер адбываюцца вакол аб'яднання Беларусі з Расіяй. Але я асабіста ад гэтага саюза нічога добрага не чакаю. Калі аб'ядноўваюцца два жабракі, то багацейшымі ад гэтага яны не стануць.

**Андрэй Салдаткін,** *карэнны слонімец:*

— Уздым нашай эканомікі немагчымы без аб'яднання з Расіяй, але не выключаю, што пасля аб'яднання курс беларускага рубля можа значна панізіцца.

**Валянціна Іванаўна,** *жыхарка Слоніма:*

— Мне ніякія аб'яднанні не патрэбны, я хачу жыць сваёй галавой. Сярод маіх сяброў шмат рускіх, беларусаў, украінцаў, і мы цудоўна разумеем адзін аднога без усякіх саюзаў. Адносіны паміж людзьмі павінны быць бескарыснымі, а будаваць іх на падліках, хто болей будзе мець ад саюза — недапушчальна.

**Віктар,** *малады хлопец:*

— На мой погляд, не туды наш прэзідэнт імкнецца. Нам неабходна павярнуцца тварам на захад, як гэта зрабілі краіны Балтыі, дзе зараз існуюць нармальныя рынкачныя адносіны. А ад саюза з Расіяй нічога добрага не атрымаецца. Там хапае сваіх праблем, якія не хутка будуць вырашаны. Гэта ж так відавочна.

**Алег Мікалаевіч Сакалоў,** *ветэран працы:*

— Ніякага аб'яднання з Расіяй нам не трэба. Трэба жыць сваім розумам. Ні Расія, ні Еўропа нічога лепшага нам не дадуць.

**Уладзімір Літвін,** *рабочы АРЗ:*

— Нічога добрага ад аб'яднання з Расіяй я не чакаю. Спадзяюся толькі на свой розум і свае рукі. З усімі краінамі патрэбна супрацоўнічаць на ўзаемавыгадных умовах. Наш дабрабыт цалкам залежыць ад нас саміх. Ніхто нічога нам дарма не дасць.

**Аляксандр Рыгоравіч,** *пенсіянер:*

— Саюз Беларусі і Расіі можа і дасць станоўчыя вынікі, калі толькі не ўвядуць агульныя грошы. Як толькі будзе адзіны з Расіяй рубель — будзем і мы па некалькі месяцаў чакаць зарплату і пенсію.

**Юрый Генадзьевіч:**

— Нармальныя адносіны паміж людзьмі нельга наладзіць шляхам заключэння нейкага саюза. У многіх краін свету існуюць добрасуседскія адносіны паміж сабой без усякіх пагадненняў. Не паспелі з аднаго саюза выйсці, як імкнемся ўступіць у другі. Для чаго? Не зразумела?

**Таццяна Ісаева,** *карэнная расіянка:*

— Я і мой муж цалкам за саюз Беларусі з Расіяй. Мы столькі гадоў пражылі разам, і не было ніякіх праблем. Зараз два вялікія народы раздзяліла мяжа, і мы сталі нібы чужыя. І правільна робіць наш прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, што імкнецца з'яднаць дзве дзяржавы.

**Валянцін ЧУРЫЛА, Мікалай СУПРУН (фота)**

**Працяг тэмы на 8 стр.**

НАВІНЫ

## Куда делись пенсии?

**Руководство Федерации профсоюзов Беларуси (ФПБ) направило президенту Александру Лукашенко письмо, в котором выражает беспокойство по поводу нецелевого расходования средств государственного социального страхования.**

В письме, в частности, приводится следующий факт. Своим постановлением от 2 ноября 1997 года Совет Министров обязал Фонд социальной защиты населения Министерства социальной защиты обеспечить финансирование расходов по выплате пособий семьям, воспитывающим детей в возрасте от 3 до 16 лет. А последующим постановлением — от 5 декабря — правительство изымает из Фонда в государственный бюджет 20% остатков средств. «Вызывает беспокойство и то, — отмечается в письме, — что при подготовке проекта государственного бюджета в полной мере не учитывается необходимость финансирования за счет бюджетных средств расходов, в том числе на повышение пенсий инвалидам и участникам войны, узникам фашистских лагерей, гражданам, необоснованно репрессированным по политическим мотивам и так далее». Руководство ФПБ напоминает, что использование средств государственного страхования не по назначению противоречит закону «Об основах государственного социального страхования», согласно которому эти средства не подлежат изъятию, не облагаются налогами и не могут быть использованы на другие цели.

Отметим, что в 1998 году максимальный размер пенсии в Беларуси (без учета надбавок) в пересчете по рыночному («черному») курсу наличного доллара США снизился в 3,1 раза — с 40 до 13 долларов. Помесячная динамика выглядит следующим образом: декабрь 1997 года — 40 долларов, январь 1998 года — 37, февраль — 43, март и апрель — 36, май — 34, июнь — 33, июль — 36, август — 33, сентябрь — 24, октябрь — 16, ноябрь — 14, декабрь — 13 (при расчетах брался курс на 15-е число каждого месяца).

**БелаПАН**

## Крытык — госць тэатра

**Тэатральны крытык, загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Мінскай акадэміі мастацтваў Вячаслаў Іваноўскі два дні знаёміўся з жыццём і творчым рэпертуарам Слонімскага беларускага драмтэатра.**

Ён паглядзеў чатыры спектаклі, пра якія выказаў сваю ўласную думку. Крытык таксама расказаў пра сучасны стан тэатральнага мастацтва ў рэспубліцы, які сёння далёкі да ідэальнага. Спадар Іваноўскі таксама адказаў на пытанні слонімскіх артыстаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Марка с изображением Сынковичской церкви

**В почтовое обращение Беларуси введена марка с изображением Сынковичской церкви-крепости — всемирно известного памятника оборонного зодчества конца XV — начала XVI веков, возведенного в стиле белорусской готики в Зельвенском районе.**

Новая марка номиналом в 5.000 рублей выпущена тиражом в 2 миллиона экземпляров.

## Музей уродств

**В Гродненском медицинском институте создается музей уродств. Среди его экспонатов будут сиамские близнецы, голова младенца с двумя лицами, различные органы человека с врожденными патологиями и т.д.**

Цель создания музея — не только стремление сохранить имеющуюся в институте уникальную коллекцию, но и показать негативное влияние на здоровье человека алкоголя, наркотиков, радиации, загрязнения окружающей среды.

Музей разместится в здании кафедры анатомии человека мединститута, известном как «Баториевка». 12 декабря 1586 года здесь умер Великий князь Литовский, польский король Стефан Баторий и здесь же, с целью выяснения причины его смерти, было произведено анатомическое вскрытие тела.

**БелаПАН**

## Смачных булак будзе больш

**Камбінат Дзятлаўскага райспажыўсаюза набыў нямецкае абсталяванне па выпуску хлебабулачных вырабаў коштам шэсць мільярдаў рублёў.**

Такім чынам мясцовыя каапэратары спадзяюцца павялічыць вытворчасць, палепшыць якасць і пашырыць асартымент булак і хлеба. Новая лінія пачне працаваць ужо ў студзені.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ВЕСТКІ З МАСТОЎШЧЫНЫ

## ГОД МІНУЛЫ, ГОД БУДУЧЫ: апытанне на пачатку 1999 г.

**На пачаку бягучага года карэспандэнт "ГС" звярнуўся да жыхароў Мастоў з пытаннем: што даў ім мінулы год, і якія надзеі яны ўскладаюць на год бягучы? Вось што ён пачуў.**

**Аляксандр П.,** *рабочы АТ "Мастоўдрэў", 35 гадоў:*

— Нічога. Пражыў год і наблізіўся да смерці. Дый хіба гэта жыццё пры нашых заробках?.. Тое самае будзе і ў гэтым годзе. Давядзецца думаць толькі, як сям'ю пракарміць.

**Віктар С.,** *22 гады, беспрацоўны:*

— Ажаніўся. Гэта галоўная падзея ў мінулым годзе. Нідзе не працую і не збіраюся гарбаціцца за 20 "баксаў" у месяц. Езджу ў Польшчу. Гандаль не квітнее, але заробкі даваляюць жыць.

**Галіна Сяргееўна,** *пенсіянерка, 68 гадоў:*

— Унучка замуж выйшла. У гэтым годзе, дасць Бог, прабабкаю стану. Пенсію плацяць, дый добра. Зараз толькі ў чэргах мне, старому чалавеку, цяжка стаяць.

**Браніслава С.,** *гадоў за 50, беспрацоўная:*

— Скарацілі даўно, але на працу не бяруць. Па накіраванню бюро (бюро па працаўладкаванню -рэд.) езджу ў калгас. Там плацяць нейкую капейку. Увосень бульбы навазіла. Так і жыву. Нічога лепшага ў мяне не будзе і ў гэтым годзе.

**Мікалай К.,** *32 гады:*

— Год някепскі: атрымаў запрашэнне ад сяброў з Амерыкі. Хутка ад'язджаю. Папрацую некалькі гадоў, а там буду бачыць. Тут "лавіць" няма чаго.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Мастоўскі даўгабуд

**Другі год ідзе рамонт маста праз раку Нёман у вёсцы Масты Правыя.**

Пабудаваны ён яшчэ ў трыццатыя гады гэтага стагоддзя на скрыжаванні старажытных трактаў Гродна - Слонім і Вільня - Брэст.

Але і цяпер ён прымае на сябе значную частку грузавога патоку. Тым не менш шырыня маста не дазваляла інтэнсіўна рухацца цяжкавагавым аўтамабілям. Таму, каб пашырыць яго праезджую частку, было вырашана з двух бакоў маста зрабіць вынасныя тратуары для пешаходаў. Для рамонту ўлады выдзелілі 20 мільярдаў рублёў і меркавалі яго закончыць у 1998 годзе. Аднак на сёння зроблена толькі адна пешаходная дарожка. Калі будуць завершаны астатнія работы? Адзін з супрацоўнікаў Мастоўскага выканкама заявіў, што рамонт маста закончыцца ў 1999 годзе. І трэба спадзявацца, што словы спецыяліста спраўдзяцца.

Дарэчы, у тыя далёкія трыццатыя гады мост будавалі на працягу васьмі месяцаў. Усё неабходнае абсталяванне вазілі фурманкамі са станцыі Масты, бо іншага транспарту тады не было.

## Выстава ў Гудзевічах

**У літаратурна-краязнаўчым музеі, што ў вёсцы Гудзевічы, адбылася філатэлічная выстава "Наша спадчына".**

Яна складалася з калекцыі марак мясцовых філатэлістаў Ф.Гушчы і А.Карповіча.

**Янка КАЛУЖНЫ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 6 студзеня 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз. Заказ №14
© «Газета Слонімская». Спасылка на "ГС" абавязковая
® Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

Газета Слонімская
7 — 13 студзеня 1999г., № 2 (83)

# У ВАЙНЫ — ТВАР СМЕРЦІ

У час вайны ў Слоніме першыя экзекуцыі-расстрэлы адбыліся на тэрыторыі цяперашняга рынку, на месцы, дзе сёння стаіць будынак музычнай школы. Некалі там былі яўрэйскія могілкі. Немцы стралялі там былых савецкіх актывістаў. А першы масавы расстрэл немцы ўчынілі прыблізна 12-14 ліпеня 1941 года пасля таго, як у горад уварваліся тры савецкія танкі, каб вызваліць палонных з лагера, які знаходзіўся на стадыёне. Цяпер гэта вуліца Даватара. Адзін з танкаў паламаў высокі сетчаты плот. Пасля чаго шмат палонных разбеглася. Танк немцы падбілі і спалілі на скрыжаванні Шасейнай і Чырвонаармейскай вуліц. На другі дзень немцы загадалі ўсяму мужчынскаму насельніцтву горада сабрацца на яўрэйскіх могілках, дзе цяпер знахо-дзяцца 3 і 10 школы. Адначасова па горадзе вышуквалі ўцекачоў-палонных. Каго лавілі, адразу расстрэльвалі на месцы. Правёўшы селекцыю сярод мужчын, адабралі 500 чалавек яўрэяў і расстралялі, там, дзе цяпер стаяць дзевяціпавярховыя дамы.

Затым да 1943 года прыкладна раз у паўгода адбываліся яўрэйскія пагромы. А самае страшнае здарылася ў перыяд з 29 чэрвеня па 15 ліпеня 1943 года. Немцы падпалілі гета, якое знаходзілася на востраве паміж каналам Агінскага і старым рэчышчам Шчары, дзе было каля 15.000-16.000 яўрэяў. На тым месцы ўздоўж Шчары літаральна праз 50-100 метраў стаялі карнікі ў чорнай форме. Гэта былі літоўцы, украінцы, якіх прывезлі ў Слонім. Прыкладна, 30 чэрвеня гета падпалілі. Тых, хто спрабаваў уцячы, расстрэльвалі ў Шчары. Бацькі не пускалі дзяцей на двор, бо баяліся, што п'яныя паліцаі маглі іх застрэліць. Калі гарэлі людзі, стаяў вельмі моцны смурод. Потым абгарэлыя трупы вывозілі на падводах.


*Апазнанне ахвяраў фашысцкага тэрору. Пятралевіцкая гара, ліпень 1944г.*

На рынку, каля аптэкі (цяпер гэта плошча Леніна), стаяла шыбеніца. Яна амаль ніколі не пуставала. Я бачыў, як на ёй вешалі ахвяраў, а людзі тым часам прадавалі свой тавар. Вясной 1943 года там павесілі рыбака за тое, што перавёз на лодцы партызана, за якім гналіся паліцаі. За будынкам СД і паліцыі (цяпер гэта дзіцячая паліклініка) усіх тых, хто не мог афіцыйна пацвердзіць сваю асобу, расстрэльвалі. Амаль кожную раніцу там ляжалі трупы, якіх днём адвозілі хаваць, бо ноччу і вечарам быў каменданцкі час.

Самае страшнае відовішча было ў першых чыслах жніўня 1944 года на Пятралевіцкай гары. Перад адступленнем немцы расстралялі больш за 500 палякаў і беларусаў (з яўрэяў на той час у Слоніме ўжо нікога не засталося). Потым на падводах па Віленскай вуліцы везлі на Ружанскія могілкі трупы. Тады па ўсім горадзе стаяў жудасны людскі плач і стогн. Вось так закончылася "эпапея" нямецка-фашысцкай акупацыі ў Слоніме.

**Вячаслаў СЦЯПУРА**

# ЯК ЗАХОЎВАЕМ ПАМЯЦЬ

**У Зэльве прайшла першая навуковая гісторыка-краязнаўчая канферэнцыя "Старонкі гісторыі Зэльвеншчыны".**

Сімвалічна, што яна праходзіла ў год 740-й гадавіны з моманту ўзгадвання Зэльвы ў Іпацьеўскім летапісе. Аднак навуковая інтэлегенцыя так і не прыйшла да канчатковай высновы наконт афіцыйнага ўзросту пасёлка. Напрыклад, прафесар І.П. Крэнь адстойваў 1470 год заснавання Зэльвы, які значыцца ў трэцім томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", навуковым кансультантам якой ён быў. Адносна назвы Зэльва навукоўцы прызналі, што назва мястэчка паходзіць ад назвы ракі "зялёная". Але і тут не пастаўлена кропка.

Шмат было выступленняў, дзе ішла гаворка пра Зэльву ў гады другой сусветнай вайны і першых пяцігодак. Навукоўцы прачыталі даклады пра археалагічныя даследаванні сярэдневяковых помнікаў і старажытнасцей бронзавага веку на тэрыторыі раёна, а таксама аб Зэльвенскім (Ганненскім) кірмашы, якім славілася мястэчка ў XVIII—XIX стагоддзях.

У даўнія часы эканоміка Зэльвы была лепшай, чым зараз, бо мела напрыканцы XIX стагоддзя вінакурню, якая выпускала прадукцыі на 720 рублёў, піваварны завод мешчаніна Арона Ротнага, які выпускаў 2250 вёдраў піва на 1690 рублёў, яшчэ дзве піваварні Салуцкага і Шапіры, два мёдаварныя заводы Вішняцкага і Ротнага, гарбарны завод, які належаў Арону Лявінскаму, млын Нікіты Канстанцінава. Прытым шырока развіваліся традыцыйныя галіны — земляробства і жывёлагадоўля.

**Пётр ЖЭБРАК, Зэльва**

# НЕСКОЛЬКО МЕСЯЦЕВ В КАМЕРЕ СМЕРТНИКОВ



**Наш земляк генерал-полковник Владислав Корчиц (1893 — 1966) прошел путь от солдата до генерала Красной Армии, а в послевоенные годы возглавлял генеральный штаб Войска Польского.**

"ГС" уже рассказывала об этом военачальнике на своих страницах. А недавно наш земляк, поэт Збигнев Толочинский, который сейчас живет в Польше, прислал воспоминания бывшего премьера Польши Петра Ярошевича. Они приоткрывают завесу над малоизвестными страницами биографии В. Корчица. Сегодня представляем читателям выдержки из этого документа.

"Товарищеские отношения у меня сложились с Корчицем, Сверчевским, Бордзиловским. Судьба каждого из них — это трагическая повесть о жертвах сталинизма. От них я впервые узнал о том, что пришлось вытерпеть советским офицерам во времена довоенной "чистки", особенно — офицерам польского происхождения, которых в Красной Армии было много. С особой жестокостью мучили Владислава Корчица.

На момент ареста он командовал одним из первых в СССР механизированных корпусов. На всю жизнь на его руках остались следы от поломанных пальцев и вырванных, во время допросов, ногтей. Спина была "разукрашена" винтовочными шомполами. Он уцелел потому, что имитировал психически больного: во время следствия "выдавал" имена "врагов народа", взятые исключительно из "Крестоносцев" Генрика Сенкевича. После смертного приговора Корчиц просидел несколько месяцев в камере, ожидая расстреда. Потом его реабилитировали и вернули в армию".

**Подготовил Игорь ПОДГОРОДЕЦКИЙ**

## ФОТААРХІЎ

**Гэтым рэдкім здымкам больш за пяцьдзесят гадоў. 1 снежня 1947 года ў Шылавічах Слонімскага раёна была забіта старшыня мясцовага сельсавета, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР 45-гадовая Ганна Кароль. Афіцыйна лічыцца, што яна загінула ад рук "ворагаў народа". Аднак да сённяшняга часу гэта забойства не раскрытае...**

***На здымках з сямейнага архіва сланімчанкі Веры Падковіч — пахаванне Г. Кароль: развітанне з нябожчыцай у зале старога слонімскага РДК і на Ружанскіх могілках.***





# НА СКРЫЖАВАННІ ТРОХ ДАРОГ

**500 гадоў назад Вялікі князь Аляксандр (1492-1506 г.г.) падараваў двор Здзечала свайму гетману Канстанціну Іванавічу Астрожскаму, з правам заснаваць там мястэчка. Менавіта гэта дата і лічыцца годам заснавання Дзятлава, ці як мястэчка называлася ў розныя часы: Здзенцель, Здзенціоль, Зецела.**

Двор Дзечала, які існаваў як застава задоўга да гэтай падзеі, працяглы час меў важнае ваеннае значэнне. Ён узнік на скрыжаванні трох дарог да старажытных беларускіх гарадоў: Слонім, Навагрудак, Ліда. Яшчэ ў 1253 годзе тут, каля возера З'ята, (яно дало назву Дзятлава), адбылася бітва паміж войскамі навагрудскага князя Міндоўга і галіцка-валынскага князя Данілы. Пазней, у 1508 годзе, першы ўладальнік Дзятлава князь Астрожскі пабудаваў там крэпасць для абароны ад набегаў крымскіх татар. Крэпасць праіснавала роўна 200 гадоў.

У пачатку 1708 года, падчас Паўночнай вайны Расіі і Швецыі, у Дзятлаве спыніліся галоўныя сілы рускай арміі на чале з Меншыкавым. Некаторы час у крэпасці знаходзілася штаб-кватэра цара Пятра Першага. Пасля адыходу рускіх войск шведы яе спалілі і разбурылі.

У 1812 годзе мястэчка абаранялася ад напалеонаўскіх войск, у 1914 — ад войск кайзераўскай Германіі. У гады Вялікай Айчыннай вайны — ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вось чаму знак абарончай вежы стаў сімвалам барацьбы за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны.

Доўгі час Дзятлавам валодалі буйныя магнацкія роды Астрожскіх, Сапегаў, Палубінскіх, Радзівілаў, Солтанаў. І амаль кожны ўладальнік пакінуў след у нашай гісторыі. У 1646 годзе на сродкі Казіміра Льва Сапегі быў пабудаваны мураваны касцёл Успення Багародзіцы — выдатны помнік архітэктуры позняга барока. Цяпер ён з'яўляецца самым старажытным будынкам Дзятлава.

У 1751 годзе чарговы ўладальнік Дзятлава князь Мікалай Радзівіл будуе буйнамаштабны, на еўрапейскі ўзор, палац. У некалькі зменены выглядзе палац захаваўся да нашых дзён. Апошні ўладальнік Дзятлава граф Солтан пабудаваў папяровую фабрыку, цагляны завод, паштовую станцыю. Ён валодаў адной з лепшых бібліятэк у Гродзенскай губерні.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Дзятлава адышло да Расіі, увайшло ў склад Слонімскага павета Гродзенскай губерні.

Як і другія гарады Беларусі, Дзятлава перажыло шматлікія войны, якія суправаджаліся разарэннем, голадам, эпідэміямі. Усё гэта запавольвала развіццё гаспадаркі, але працавіты народ кожны раз аднаджаў родны край. Мястэчка расло і развівалася. Калі ў XVII стагоддзі ў Дзятлаве было 9 вуліц, 126 дамоў і каля тысячы жыхароў, то ў канцы XIX стагоддзя яно налічвала ужо больш 5 тысяч чалавек. Працавалі дробныя прамысловыя прадпрыемствы: гарбарныя, цагляныя, шкіпідарныя майстэрні, бровары, млыны. Выраблялся паркет, які ішоў на экспарт.

У перыяд паміж дзвюма войнамі Дзятлава ўваходзіла ў склад Польшчы. У гэты час вызначыўся наш зямляк Ігнат Сымонавіч Дварчанін — доктар філасофіі, літаратуразнаўца. Ён смела абараняў сацыяльныя і нацыянальныя правы беларускага народа на масавых мітынгах і на сойме ў Варшаве. Бюст Дварчаніну ўстаноўлены ў Дзятлаве на цэнтральнай плошчы.

Вялікія страты панесла Дзятлава ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Фашысты расстралялі 5800 жыхароў горада, у асноўным, яўрэйскай нацыянальнасці. Помнікі ім — брацкія магілы — знаходзяцца ў двух месцах горада. У снежні 1942 года Іосіф Філідовіч цаной свайго жыцця выратаваў партызанскі шпіталь. Помнік яму ўстаноўлены каля гісторыка-краязнаўчага музея. Шмат іншых помнікаў салдатам, партызанам, падпольшчыкам, мірным жыхарам, якія загінулі ў гады вайны, знаходзяцца ў розных кутках горада.

Летась Дзятлава адзначыла сваё 500-годдзе. Старажытны горад маладзее і прыгажэе.

**Фёдар КРАСЮК, дырэктар Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея**




# "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?"

**Паважаныя чытачы!**

З сённяшняга нумару наша газета пачынае для вас новы гумарыстычны конкурс "Што б гэта значыла?". Да фотаздымкаў, якія будуць друкавацца, трэба прыдумаць смешныя подпісы. Яны могуць быць напісаны прозаю альбо вершам на беларускай ці рускай мовах. Галоўнае, каб, прачытаўшы іх, можна было б усміхнуцца.

Прапануем вашай увазе першы здымак конкурсу, які зрабіў наш фотакарэспандэнт Мікалай Супрун. На працягу дзесяці дзён чакаем ад вас да здымка смешныя подпісы па адрасе: 231800 г.Слонім, вул.Янкі Купалы,5."ГС". Не забывайце ўказваць сваё імя і прозвішча, дамашні адрас і тэлефон. Вынікі конкурсу рэдакцыя падвядзе першага красавіка, калі будзе адзначацца дзень смеху. Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы.

Рэдакцыя чакае ад вас, шаноўныя чытачы, і смешныя фотаздымкі да гэтага конкурсу. Лепшыя будуць надрукаваны, а аўтары іх таксама атрымаюць прызы. І так... паехалі!

**Журы конкурсу**




## Мая мара — фотаапарат

Дзякуй рэдакцыі "Газеты Слонімскай" за тое, што на яе старонках праводзіўся конкурс "У аб'ектыве – дзеці". Я таксама разам з маці прымаў у ім удзел.

А ўпершыню аб фатаграфіі даведаўся ад свайго бацькі. Калі я быў маленькі, мы ўсёй сям'ёй часта адпачывалі, падоўгу бавілі час на прыродзе. Бацька шмат здымаў, а ўвечары рабіў фотаздымкі. Я з захапленнем назіраў за яго работай. Мне было цікава ведаць, як з дапамогай маленькага фотаапарата можна зрабіць вялікія прыгожыя фотаздымкі.

Я хачу навучыцца здымаць не толькі сваіх родных і сяброў, але і мару паказаць на сваіх здымках цікавыя, незвычайныя куткі прыроды.

Мая мара, каб фотаапарат быў заўсёды маім спадарожнікам. Я лічу, што чалавек, які займаецца фатаграфіяй, кожны дзень адкрывае для сябе нешта новае ў штодзённым жыцці.

**З павагаю, БУЛАНАЎ Раман, вучань 7"Б" класа СШ №9**

**P.S.** *Шаноўны Раман!*

*Твой ліст мне паказалі ў рэдакцыі "ГС". Ён мяне вельмі ўразіў, таму я вырашыў ад нашага слонімскага філіяла фірмы "Кодак" падараваць табе фотаапарат, які ты можаш атрымаць у рэдакцыі газеты. Аддзелы "Кодак" знаходзяцца ў магазінах "Юбілейны", "1000 дробязей", "Дружба".*

**Юрый АДАМЧУК**



**ГУМАРЭСКА-БЫЛЬ**

# Калі яйкі — дэфіцыт

*"К новогоднему столу у людей должны быть нормальные человеческие яйца... Вот только я взялся за яйца, как исчезло масло..."*

**З выказванняў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі падчас наведвання мінскіх магазінаў перад Новым годам ("Навіны", №139, 1998)**

Мы зноў пачынаем прывыкаць да дэфіцыту. І калі сёння раптам усё з'явіцца ў нашых крамах, то, мне здаецца, пачнецца сумнае жыццё. Бо пагоня за дэфіцытам — гэта і спорт, і, вядома ж, гумар. Сёння я хачу спыніцца толькі на адным важным дэфіцыце — яйках. Так-так, звычайных курыных яйках. І не толькі...

Вельмі не хочацца, каб сёння зноў паўтарыўся час талонаў. Але што ён быў, дык гэта факт. І кожны тады стараўся атаварыць адразу ўсе талоны. А бывала і не шанцавала. Падыходзіць неяк адзін мужчына да прадаўшчыцы і паказвае ёй талоны. А яна яму кажа: "Яйцы ў вас ужо выразаны!". Мужчына здзіўляецца: "Няўжо?".

А вось нядаўна маёй суседцы проста пашанцавала. Поўны цэлафанавы мяшочак набрала яек. Усмешка на твары, добры настрой. А яе сяброўка, якая стаяла з ёю побач на аўтобусным прыпынку, не паспела купіць яек, бо ўжо разабралі. Яна, відаць, зайздросціла ёй. Тут раптам пад'ехаў аўтобус, і натоўп хлынуў у адчыненыя дзверы. Жанчыне "з яйкамі" удалося ўціснуцца ў пярэднія дзверы, а яе сяброўка ўвайшла ў сярэднія. Каб не падушыць яйкі, жанчына папрасіла дазволу ў вадзіцеля пакласці іх у кабіну. Вадзіцель дазволіў. Аўтобус рушыў. Раптам цішыню салона парушыў звонкі жаночы голас:

— Ганна, ідзі да мяне, тут свабадней.

Але Ганна гучна адказала:

— Не магу, я ў вадзіцеля яйцы трымаю.

Ах, яйкі, яйкі! Прыгоды з вамі ў апошні час і радасныя, і сумныя.

А гэты выпадак расказала мне нядаўна адна знаёмая. Яе муж са сваім сябрам вярнуліся з работы на гадзіну раней. Муж пайшоў па піва, а сябрук залез у ванну памыцца (дома якраз не было гарачай вады). Дзверы зачыніў на замок. Праз поўны час і гаспадыня кватэры вярнулася з работы дамоў, сваім ключом адчыніла дзверы. Заходзіць, як звычайна ў кватэру, пераапранаецца і чуе, як у ваннай нехта мыецца. Вырашыла, што гэта яе муж. Таму яна смела зайшла ў ванну, каб памыць рукі. У гэты момант сябра яе мужа ўжо памыўся і ручніком пачаў выціраць галаву. Як ні ў чым не бывала, гаспадыня ўваходзіць у ванну і рукою чапае за чыстае і вымытае багацце між ног мужчыны. І радасна пытаецца: "Ну, што, мае яечкі, добра памыліся? Га?". Той ад нечаканага дотыку чуць з ног не зваліўся. А жанчына глядзіць і вачам сваім не верыць: у ванне — не муж, а яго сябрук.

Што было далей — вы, шаноўныя чытачы, можаце толькі ўявіць. Добра, што праз хвіліну-другую з крамы вярнуўся муж з трохлітровым слоікам піва.

А неяк на днях пачуў я размову дзвюх маладых кабет. Адна слухала, а другая расказвала: "Учора першы раз абула свае новыя боты. Хоць і слізка было, але карцела прайсціся па магазінах. Іду, а побач адзін мужчына нясе поўную сумку яек. Ну, думаю, як паслізнуся і яго саб'ю — прапалі тады яйкі. Толькі так падумала, як грукнулася ягадзіцаю, а побач паваліўся мужчына. Хуценька ўстала і пытаюся: "Як вашы яйцы?". А ён адказвае: "З яйцамі ўсё нармальна, вось толькі калена крыху пабіў". Калі прыгледжуся, дык той мужчына з сумкаю яек як ішоў, так і пайшоў, а гэта быў зусім іншы."

Ах, яйкі, яйкі! Не ведаю, як мужчын, а жанчын яны вельмі хвалююць і не даюць спакою. Але што ж зробіш — дэфіцыт!

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Ігнацік Дар'я
Рыжак Максім
Алёхін Дзяніс
Русак Арцём
Русак Ангеліна
Крывашэін Дзяніс
Крот Дзмітрый
Дзянісік Святлана
Пятліцкі Аляксей
Блізнюк Арцём
Яскевіч Юлія
Бабаш Вікторыя
Загдай Максім
Трафімовіч Дзяніс
Гартман Бажэна




## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

| | |
|---|---|
| **Зянько** Мікалай Міхайлавіч | 1946 г.н. |
| **Маркач** Любоў Васільеўна | 1929 г.н. |
| **Рагозік** Анатоль Раманавіч | 1934 г.н. |
| **Вязнікаў** Мікалай Яфімавіч | 1940 г.н. |



**ВЕСЕЛЫЙ КРОССВОРД** *от Владимира Вашуты*



**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**

**5**. Футбольная часть электродвигателя. **7**. Процесс карманной тяги. **9**. Абсолютно отвязанный вид транспорта. **10**. Контрабандный объект таможенного досмотра. **11**. Домоносец (зоолог). **12**. Первая часть голубой мечты детства О.Бендера. **13**. Дедушка "Ура". **17**. Банный телопогрузитель. **19**. История, которую постоянно травят. **22**. "Ревизор" печатной продукции. **23**. Министр по делам беженцев (сказ.). **25**. Параллель с сильной жарой. **26**. Вид плаванья "под лягушкой". **29**. Пассажирская ручная волокита. **33**. Предложение повторить (театр.). **35**. Сигарета в будущем. **36**. Человек с красноречием. **37**. Морская рукопашная. **38**. Самолетная ночлежка. **39**. Мелочь на зарядку.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**

**1**. Полевой аврал в период уборки. **2**. Не очень приятные оскорбительные слова, ругань. **3**. То, от чего куксятся (алис.). **4**. Щека в старину. **5**. Ес[illegible] в Грузии река, большие берега. **6**. Домашняя сбербанка. **8**. Звериный тормоз. **14**. Пальчиковая тепличка. **15**. Перекур по-театральному. **16**. Круговая порука (танц.). **18**. Противник досуга. **20**. Черноокая цыганка (песен.). **21**. Нездвинутое транспортное средство (крыловск.). **24**. Краскодром. **27**. Тягач в одну человеческую силу (китай.). **28**. Примочка (ювелир.). **30**. Спец по органам. **31**. Надежда случайной удачи. **32**. Домашнедобронакопительное. **34**. Мокрушник-стукач.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№51)**

**По горизонтали:** **5**. Подосиновик. **8**. Садовод. **9**. Воевода. **12**. Армяк. **13**. Адмирал. **14**. Декан. **17**. Минимум. **18**. Инкассо. **21**. Атлант. **22**. Балласт. **25**. Прага. **26**. "Калинка". **27**. Аршин. **30**. Суринам. **31**. Радищев. **32**. Иллюзионист.

**По вертикали:** **1**. Рокот. **2**. Ротонда. **3**. Водопад. **4**. Битва. **6**. Шаляпин. **7**. Адресат. **10**. Архитектура. **11**. Паустовский. **15**. Куранты. **16**. Антураж. **19**. Рангоут. **20**. Кларнет. **23**. Парашют. **24**. Украина. **28**. Висла. **29**. Минск.

